№ 2(50)
Студзень 2000

# Права на волю

Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна"




На здымку: Міхаіл ЧЫГІР (у цэнтры)

# Працэс пайшоў...

***19 студзеня ў Мінскім гарадзкім судзе распачаўся разгляд крымінальнай справы, узбуджанай супраць былога прэм'ер-міністра Беларусі Міхаіла ЧЫГІРА***

Прычыну свайго арышту і крымінальнага перасьледу Міхаіл Чыгір патлумачыў журналістам у зале суда так: "Справа ў адносінах да мяне была ўзбуджаная па палітычных матывах. Калі я прыехаў з Масквы, мяне ніхто нікуды не выклікаў і не дапытваў. Аднак варта было мне зрабіць заяву пра тое, што буду балатавацца ў прэзідэнты, як я адразу ж апынуўся на "Валадарцы".

Гэтую відавочную ісьціну ніхто не аспрэчвае. Улады ж стараюцца ўвогуле не згадваць пра тое, што М.Чыгір зьяўляўся кандыдатам у прэзідэнты РБ і быў арыштаваны падчас выбарчай кампаніі. Абвінавачваецца М.Чыгір па арт. 166 ч.2, арт. 167 ч.1 і 2, і арт 168 КПК РБ (перавышэньне службовых паўнамоцтваў, халатнасьць, злоўжываньне службовым становішчам падчас ягонай дзейнасьці на пасадзе старшыні праўленьня "Белаграпрамбанку" і прэм'ер-міністра Беларусі. Адвакаты М.Чыгіра і сам ён сьцьвярджаюць, што справа ад пачатку да канца сфальсіфікаваная, а вядзеньне сьледзтва ўвогуле не вытрымлівае ніякай крытыкі.

І тым ня менш, пасьля арышту 30 сакавіка 1999 году М.Чыгір восем месяцаў правёў за кратамі і толькі 30 лістапада быў выпушчаны пад падпіску аб нявыездзе. Першапачаткова судовае паседжаньне было прызначанае на 27 сьнежня мінулага году, але яно было перанесенае. І вось 19 студзеня ў Мінскім гарадзкім судзе працэс пачаўся...

На першае судовае паседжаньне прыйшлі амбасадары Германіі сп. Вінкельман, Францыі сп.Фасье, рэпрэзентант амбасадаў Англіі і ад АБСЕ сп.Кляйнер, вядомыя беларускія палітыкі, прадстаўнікі сродкаў масавай інфармацыі, акрэдытаваных у Беларусі, проста грамадзяне, якія хацелі маральна падтрымаць М. Чыгіра ў гэты дзень. Мноства людзей, якім не ўдалося трапіць у залу суда, стаялі ў праходах, на калідорах і лесьвіцах. Яны скандзіравалі сваё патрабаваньне: "Адкрыты працэс!.."

Адвакат М.Чыгіра – ягоная жонка Юлія Чыгір — заявіла хадайніцтва, у якім ад імя мужа выказала недавер дзяржаўнаму абвінаваўцу — пракурору сп. Жынгелю ў сувязі з тым, што на распарадчым паседжаньні

(Працяг на стар. 2)

## Хроніка

***У пачатку студзеня*** выйшаў апошні нумар аршанскай (Віцебская вобласьць) незалежнай газеты "Куцейна". Афіцыйна ўлады газету не зачынялі. Больш за тое, за ўвесь час існаваньня "Куцейны" не было ніводнага судовага разьбіральніцтва паводле публікацыяў газеты і тым болей папярэджаньняў пра парушэньне Закону аб друку, хоць газета пастаянна друкавала крытычныя артыкулы на адрас мясцовае адміністрацыі. Падставай для прыпыненьня выпуску газеты стала тое, што кіраўнікі мясцовых арганізацыяў і прадпрыемстваў пад ціскам гарвыканкаму адмовіліся прадаставіць рэдакцыі "юрыдычны адрас".

***18 студзеня*** ў будынку Мінскага гарадзкога суда быў вынесены прысуд па крымінальнай справе Яўгена Асінскага. Нагадаем, што Я. Асінскі, згодна з абвінаваўчым заключэньнем, абвінавачваўся па арт. 186.3 (арганізацыя і актыўны ўдзел у групавых дзеяньнях, якія груба парушаюць грамадзкі парадак...) і арт. 201 ч.2 (злоснае хуліганства). Аднак судзьдзя Валеры Камісараў у вынесеным прысудзе не пагадзіўся з прапанаванай сьледзтвам кваліфікацыяй злачынства, у якім абвінавачвалі Я. Асінскага. У выніку, дзеяньні Я. Асінскага былі перакваліфікаваныя судом: ч.2 арт. 201 на ч.2 арт. 187.1 КК РБ (аказаньне супраціўленьня супрацоўніку міліцыі ў сувязі з выкананьнем ім службовых абавязкаў). Па арт. 186.3 КК РБ суд Я. Асінскага апраўдаў, паколькі не знайшоў складу злачынства ў ягоных дзеяньнях па дадзеным артыкуле КК РБ. Яўген Асінскі асуджаны да двух гадоў папраўчых работаў па месцы асноўнай працы з утрыманьнем дваццаці адсоткаў заробку.

(Працяг на стар.6)

# Звольнілі як "тэрарыста"...

Сябра Праваабарончага Цэнтру "Вясна" Алесь Сарнацкі 20 студзеня, як заўсёды зранку, прыйшоў на працу ў цэх Мінскага вагонарамонтнага заводу. Яго зьдзівіла небывалая колькасьць супрацоўнікаў міліцыі на тэрыторыі прадпрыемства. Аднак Алесь не надаў гэтаму ўвагі, пераапрануўся ў рабочую вопратку і зьбіраўся было пачаць працаваць. І тут да Алеся падышоў майстар цэху і сказаў, што міліцыянты чакаюць менавіта яго. Палкоўнік міліцыі, які не прадставіўся, загадаў А.Сарнацкаму паказаць яму сваю шафу. У шафе міліцыянты нічога не знайшлі, акрамя маленькай наклейкі "Стоп-Лука!", што засталася з часу "Маршу Свабоды". Палкоўнік спытаў у Алеся, каму належыць гэтая наклейка. А. Сарнацкі адказаў, што яму. Супрацоўнікі міліцыі адразу ж затрымалі А. Сарнацкага і без ніякіх тлумачэньняў даставілі ў будынак Маскоўскага РАУС г. Мінску. Там яго пратрымалі каля дзьвюх гадзінаў, а потым без складаньня пратаколу і тлумачэньня падставаў затрыманьня адпусьцілі. У пастарунку Алесь пачуў, як адзін супрацоўнік міліцыі сказаў, што ранкам у міліцыю патэлефанаваў невядомы і паведаміў, што ў шафе А. Сарнацкага знаходзіцца бомба. Менавіта таму ў шафе, дзе знаходзіліся рэчы Алеся, міліцыянты і шукалі "бомбу".

Калі А. Сарнацкі вярнуўся на завод, намесьнік дырэктара прадпрыемства ў настойлівай форме запатрабаваў, каб Алесь напісаў заяву на звальненьне па асабістым жаданьні. А.Сарнацкі вымушаны быў гэта зрабіць. Такім чынам, Алеся звольнілі з заводу, дзе ён працаваў на даволі цяжкай і непрэстыжнай працы — фарбаваў вагоны. Побач з Алесем працавалі выключна раней судзімыя і асобы, што злоўжываюць алкаголем. Аднак, пэўна, кіраўніцтву прадпрыемства гэтакі сьпецыфічны "кантынгент" больш патрэбны, чым такія людзі, як Алесь Сарнацкі.

Трэба патлумачыць, што А. Сарнацкі займае актыўную грамадзянскую і палітычную пазіцыю, не адзін раз затрымліваўся і арыштоўваўся за ўдзел у акцыях пратэсту апазіцыі падчас падзеяў "Мінскай вясны" 1996-97 гг., зьяўляецца сябрам БНФ "Адраджэньне" іназіральнікам Праваабарончага Цэнтру "Вясна". Вось такога небясьпечнага "тэрарыста" і выкрылі міліцыянты і кіраўніцтва заводу.

Цяпер А. Сарнацкаму трэба шукаць новую працу, каб пракарміць сям'ю, якую ён нядаўна займеў.

**Інфармацыйны аддзел ПЦ "Вясна".**

# Працэс пайшоў...

*(Пачатак на стар. 1)*

суда 13 сьнежня ён парушыў працэсуальны кодэкс Рэспублікі Беларусь. Нагадаем, што тады пракурор адмовіў М.Чыгіру ў тым, каб ягоныя інтарэсы бараніў адвакат, намесьнік старшыні Беларускага хельсінкскага камітэту Гары Паганяйла, які зьяўляецца сябрам Маскоўскай гільдыі адвакатаў. Адначасова пракурор адмовіў М.Чыгіру і ў тым, каб Г.Паганяйла быў грамадзкім абаронцам, нягледзячы на тое, што згодна з Хельсінкскімі пагадненьнямі, а таксама арт. 62 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, КПК РБ і Статутам Хельсінкскага камітэту, прадстаўнік яго мае права паводле заявы, якую падаў грамадзянін, рэпрэзентаваць ягоныя інтарэсы ў судзе. І ўвогуле, сказала Юлія Чыгір, сп. Жынгель ёсьць асоба яўна альбо ўскосна зацікаўленая ў зыходзе справы.

Аднак суд адхіліў хадайніцтва аб недаверы пракурору сп. Жынгелю. Што і ня дзіўна, бо за ходам справы ўважліва сочаць "з вярхоў", а пракурор Жынгель зарэкамендаваў сябе з "найлепшага" боку падчас судовага працэсу па справе трох магіляўчанаў, абвінавачаных у забойстве асабістага сябра А.Лукашэнкі старшыні абласнога Дзяржкантролю Я.Мікалуцкага і падрыхтоўцы замаху на самога прэзідэнта.

Судзьдзя Аляксандр Васілевіч папрасіў усіх, хто стаіць у праходах залы, выйсьці з памяшканьня, бо, маўляў, такая колькасьць людзей, на ягоную думку, перашкаджае правядзеньню працэсу. У адказ абаронцы Міхаіла Чыгіра заявілі хадайніцтва аб прадастаўленьні іншага памяшканьня, матывуючы сваю просьбу тым, што паседжаньне суда адкрытае і на ім могуць прысутнічаць усе, хто мае жаданьне. Тым больш, што гэты працэс набыў вялікі грамадзкі і міжнародны рэзананс.

У выніку судзьдзя вымушаны быў прыпыніць судовае паседжаньне і перанесьці яго на наступны дзень для высьвятленьня пытаньня з памяшканьнем.

Зранку 20 студзеня будынак Гарадзкога суда быў ачэплены супрацоўнікамі АМАПу. У залу пачалі пускаць толькі ў 9.30. Як тлумачылі супрацоўнікі міліцыі, ім быў дадзены загад дапусьціць на працэс прыкладна 40 чалавек, каб "стаячых" грамадзянаў у зале больш не было. Шэраг незалежных журналістаў (Г.Барбарыч, Т.Сьнітко, супрацоўнікі НТВ) і прадстаўнікоў грамадзкасьці ня здолелі патрапіць у суд. Гэтым самым была парушаная Канстытуцыя і заканадаўства Рэспублікі Беларусь, дзе сказана пра адкрытасьць судовых працэсаў. Не патрапіў у залу і былы старшыня Нацбанку Станіслаў Багданкевіч, якога М.Чыгір хацеў бачыць у якасьці эксперта па банкаўскіх пытаньнях. Зрэшты, хадайніцтва абароны аб гэтым было адхіленае судом.

Нягледзячы на пратэсты абароны, суд пачаў разгляд справы. Абарона заявіла шмат хадайніцтваў, у тым ліку і пра допуск у суд грамадзкага абаронцы ад Праваабарончага Цэнтру "Вясна" Барыса Гюнтэра. Нягледзячы на пратэст пракурора, гэтае хадайніцтва было задаволенае.

Усе астатнія хадайніцтвы абароны суд не задаволіў.

Абарона запатрабавала адзін месяц на вывучэньне справы, якая складае 18 тамоў. Суд даў толькі дзесяць дзён, за якія немагчыма дасканала вывучыць "справу Чыгіра". Напрыканцы судзьдзя заявіў, што замежныя амбасадары павінны загадзя папярэджваць суд пра сваю прысутнасьць, тое самае тычыцца і журналістаў.

Судовы працэс працягнецца 31 студзеня.

**Наш кар.**



**На здымку: В.Шчукін, М.Статкевіч, М.Чыгір і С.Багданкевіч у зале суда.**

# Прызначаны ў злачынцы

***Суд над былым міністрам сельскай гаспадаркі Васілём ЛЯВОНАВЫМ як люстэрка краху эканамічнай палітыкі Лукашэнкі***

Чым часцей на Беларусі зьвяртаюцца да паслугаў Феміды, тым больш запушчанай робіцца няшчасная эканоміка краіны. Варта толькі згадаць-параўнаць, што ў нас сёньня на прылаўках крамаў і хто – на лавах падсудных. Крамы заваленыя расійскім маслам без смаку і таго ж паходжаньня каўбасой, якую дружна лаюць гаспадыні. З беларускіх харчоў засталася толькі бульба, вырашчаная на прысядзібных участках. А ў турмах усё большае гаспадарнікаў-кіраўнікоў прадпрыемстваў ды калгасаў, якія асьмеліліся некалі выказаць сваю нязгоду з "эканамічнай палітыкай" прэзідэнта ды "палітычнай сітуацыяй" у краіне. Суды літаральна заваленыя гучнымі справамі былых першых асобаў краіны і вядомых гаспадарнікаў. У студзені распачаўся суд над экс-прэм'ер-міністрам Беларусі Міхаілам Чыгіром, наблізіўся да завяршэньня разгляд справы дэпутата-бізьнесоўца Андрэя Клімава, узбуджаныя крымінальныя справы супраць дырэктара Беларускага металургічнага камбінату Юрыя Феактыстава і супраць былога дырэктара Гомельскага заводу пускавых рухавікоў Уладзіміра Жабінскага і, нарэшце, быў вынесены прысуд былому міністру сельскай гаспадаркі і харчаваньня Васілю Лявонаву. В.Лявонаў асуджаны на 4 гады калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасьці, і яшчэ на 2 гады пазбаўлены права займаць кіруючыя пасады на прадпрыемствах любых формаў уласнасьці. З гвалтам і скандалам (тэлекамера, кайданкі, афіцыйная "анафема" па БелТБ) зьняты з пасады, міністр адбыў за кратамі больш за два гады пакуль ішло "сьледзтва". За гэты час краіна ўмудрылася дайсьці да новых далягляд аў – ратаваньня калгаснай жывёлы з дапамогай замежнага збожжа і скарачэньня пагалоўя. Неўраджай ды засуха каварна супалі з перасьледам кіраўнікоў-гаспадарнікаў...



**Васіль ЛЯВОНАЎ з-за кратаў у зале суда гутарыць са сваёю дачкою.**

Справа Васіля Лявонава зрабілася "гучнай" ад самога моманту арышту міністра. Першапачатковыя страшныя абвінавачаньні В.Лявонава (хабарніцтва, лабіраваньне інтарэсаў шэрагу фірмаў за грошы, фінансавыя махінацыі і нават... дачыненьне міністра да забойства прэзідэнцкага кантралёра Я. Мікалуцкага) не змагло даказаць нават "звышаб'ектыўнае" сьледзтва. Урэшце, пасьля разгляду справы ў Вярхоўным судзе Рэспублікі Беларусь абсалютная большасьць пунктаў абвінавачваньня (шэсьць з васьмі) была зьнятая нават пракурорам. Раптам высьветлілася, што Васіля Лявонава можна лічыць вінаватым толькі ў неаплаце мэблі і прадуктаў, атрыманых ім ад кіраўніцтва калгасу "Расьсьвет". Усе астатнія прыпісаныя яму страшэнныя грахі праверку на пацьвярджэньне не прайшлі. Тым ня менш прамова пракурора ў судовых спрэчках чамусьці пачалася з эпізоду, адкінутага самім сьледзтвам, – з "сяброўства" з нябожчыкам В.Ткачовым, магілёўскім бізьнесоўцам, якога ўлады абвясьцілі арганізатарам тэракту ў Магілёве і які загінуў пры нявысьветленых абставінах у турме. Паколькі такое меркаваньне ўвогуле ня мае дачыненьня да суда над В. Лявонавым, складаецца ўражаньне, што згадка пра В.Ткачова не што іншае, як прапагандысцка-апраўдальны момант. Маўляў, нездарма ж чалавек сядзеў два гады за кратамі!

Суд быў вымушаны прызнаць, што В. Лявонаў нічые незаконныя інтарэсы не лабіраваў, не захоўваў боепрыпасы, да хабару нікога не прымушаў. Але, на думку абарончага боку, нават віна падсуднага ў прысваеньні мэблі і мяса з гароднінай не была даказаная. Папершае, у справе фігуруюць велізарныя памеры "харчовага" хабару ад "Расьсьвету": 708 кілаграмаў сьвініны, 120 кілаграмаў ялавічыны, цэнтнеры памідораў з агуркамі... Сям'я міністра з 4-х чалавек проста фізічна не магла ўсё гэта зьесьці за год з нечым, а выпадкаў гандлю міністра харчамі сьледзтва не зафіксавала. Да таго ж, Лявонавы самі вырошчваюць садавіну ў цяпліцы на лецішчы, а іхнія блізкія сваякі маюць вялікую прысядзібную прыватную гаспадарку на Магілёўшчыне, якая мае ўхіл на жывёлагадоўлю.

Другі важны момант: "доказамі" харчовага хабару зьяўляюцца выключна паказаньні кіраўнікоў "Расьсьвету" – Васіля Старавойтава і яго намесьніка Аляксандра Яўстратава. Пры гэтым абодва "сьведкі" ад гэтых паказаньняў адмовіліся і не пажадалі выступаць у судзе. Такім чынам, суд абапіраўся на тое, што Старавойтаў і Яўстратаў сказалі ў турме ў часе папярэдняга сьледзтва па іхніх справах (якія сьледчыя тады імкнуліся "прывязаць" да справы В.Лявонава і яшчэ аднаой – аб забойстве Я. Мікалуцкага). Але ж вядома, што ўжо на момант суда над кіраўнікамі "Расьсьвету" А.Яўстратаў і В.Старавойтаў знаходзіліся ў кепскім псіхічным стане. 75-гадовы двойчы Герой Сацыялістычнай Працы В. Старавойтаў падчас суда прасіў даць яму дыхнуць вольным паветрам і ледзь мог устаць на ногі. Адвакаты, якія абаранялі Васіля Лявонава, прывялі судовай калегіі дакументальныя сьведчаньні сур'ёзных расстройстваў здароўя тых, каго калегія Вярхоўнага суда чамусьці зрабіла асноўнымі сьведкамі і на чыіх паказаньнях і грунтавалася абвінавачаньне. Адвакат Вольга Зудава прапанавала суду вынесьці асобнае прыватнае азначэньне на адрас сьледчых з-за шматлікіх парушэньняў імі працэсуальнага заканадаўства. Многія сьведкі па справе Лявонава на судзе адмовіліся ад сваіх паказаньняў, распавёўшы пра проста незаконныя, нечалавечыя метады "працы" зь імі. Так, адну жанчыну сьледчыя даставілі на допыт прымусова — хворую, з высокай тэмпературай; некалькім сьведкам адкрыта пагражалі зьняволеньнем у выпадку, калі не дадуць паказаньні супраць В.Лявонава. А кіраўнік фірмы "Руст-інвест" спадар Пракаповіч, які не жадаў паклёпнічаць, пяць месяцаў адсядзеў у турме нібыта за хабар міністру (па гэтым эпізодзе, дарэчы, суд вынес апраўдаўчы вердыкт).

Назіральнікі трактуюць усе выпадкі з так званым хабарам як абсурдныя. Ніхто яшчэ ня бачыў, каб злачынства дакументальна пацьвярджалі самі злачынцы. Між тым, суд грунтаваўся ў сваіх высновах і на мностве актаў, накладных і г. д., хоць яны адлюстроўвалі, хутчэй, адкрытасьць вядзеньня фінансавых справаў, а ня дачу хабару.

*(Працяг на стар. 7)*

# Салдат загінуў у мірны час,

## аднак вінаватых ў ягонай сьмерці няма...

Трагедыя прыйшла ў сям'ю гамяльчанаў Міхаіла і Ганны Маскаленкаў тры з паловай гады таму, калі падчас тэрміновай службы ў войску загінуў іх адзіны сын Андрэй.

Усе гады, што прайшлі пасьля гэтай трагедыі, бацькі салдата абівалі парогі дзясяткаў вышэйшых судовых і ўладных інстанцыяў, накіравалі на розныя адрасы безьліч лістоў з просьбамі разабрацца ў факце гібелі сына. Пакуль, счарнелыя ад гора і болю, нарэшце, не зразумелі: праз сьцяну чыноўніцкай абыякавасьці і кругавой зарукі ім не прабіцца...

Тады Міхаіл Мікалаевіч зьвярнуўся ў прыёмную Гомельскага аддзяленьня Праваабарончага Цэнтру «Вясна», каб у чарговы раз расказаць сваю сумную гісторыю, знайсьці спачуваньне і, магчыма, дапамогу. Але што можа зрабіць грамадзкая арганізацыя ў гэтым канкрэтным выпадку? Відаць, толькі адно — расказаць пра бяду сям'і Маскаленкаў у незалежнай прэсе. Мажліва, публікацыя прымусіць службовых асобаў больш уважліва і адказна паставіцца да скаргі бацькоў? А мажліва, грамадзкая думка дапаможа, нарэшце, расчыніць для Маскаленкаў дзьвery кабінетаў экс-прэзідэнта і генпракурора краіны? Тым больш, што бацькі ўжо не чакаюць ніякіх цудаў і разумеюць, што ніхто ім сына ня верне, што ніхто ня стане па сутнасьці разьбірацца ў прычынах сьмерці іх сына. Аднак яны па-ранейшаму хочуць пачуць адказ на сваю скаргу непасрэдна ад Аляксандра Лукашэнкі і Алега Бажэлкі.

Згадзіцеся, што аддаўшы ў мірны час у беларускае войска свайго сына і назаўсёды яго страціўшы, гамяльчане Міхаіл Мікалаевіч і Ганна Андрэеўна Маскаленкі маюць права разьлічваць на сустрэчу з людзьмі, якія кіруюць беларускай дзяржавай і нясуць адказнасьць за тое, што адбываецца ў краіне. Яны лічаць, што абавязаныя перад памяцьцю сына прайсьці гэтую апошнюю інстанцыю. Пераканаць іх у адваротным нікому ня ўдасца.

Тым ня менш прабіцца «наверх» з тым, каб выказаць сваю нязгоду са спыненьнем крымінальнай справы па факце гібелі сына, няшчасныя бацькі так і ня здолелі. Затое атрымалі больш за тры дзясяткі адпісак з запэўніваньнямі ў тым, што сьледзтва было праведзенае аб'ектыўна, а Андрэй скончыў жыцьцё самагубствам і асобаў, вінаватых у ягонай сьмерці, няма.

Цяпер прапануем чытачам вытрымкі са скаргі бацькоў, з якой яны зьвярталіся ў самыя розныя інстанцыі, патрабуючы адказу на пытаньне: хто вінаваты ў гібелі Андрэя Маскаленкі? А ў тым, што ён не самагубца, бацькі, правёўшы сваё расьсьледаваньне, перакананы.

"Наш сын, Маскаленка Андрэй Міхайлавіч, быў прызваны ў войска 5 студзеня 1996 году і накіраваны ў в/ч 7404 горада Баранавічы Брэсцкай вобласьці. Праз два месяцы яго перавялі ў Івацэвічы, дзе яшчэ праз два месяцы ён загінуў. Мы з жонкай наведалі яго ў Івацэвічах 15 сакавіка 1996 году. Тады, у нашу апошнюю сустрэчу, сын расказаў мне пра тое, што падпалкоўнік Карапетаў прапанаваў яму нейкую працу, за якую абяцаў вялікія грошы. Андрэй адмовіўся. Таму, паводле ягоных словаў, і быў пераведзены з Баранавічаў у Івацэвічы і папярэджаны, што калі каму-небудзь раскажа пра пачутае, будзе забіты. Прыехаўшы дадому, мы з жонкай напісалі ліст у генеральную пракуратуру, аднак адказу адтуль так і не атрымалі.

Затое 11 траўня з вайсковае часткі нам патэлефанаваў капітан Пронька і паведаміў, што сын скончыў жыцьцё самагубствам, стрэліўшы сабе ў рот. Адбылося гэта 10 траўня ў 23 гадзіны 15 мінут у каравуле на вышцы. Калі мы з зяцем прыехалі ў вайсковую частку, дык камандзір роты назваў іншы час знаходжаньня Андрэя ў каравуле (а значыць, і яго гібелі?) — 9 траўня. Атрымліваецца, што сын знаходзіўся ў каравуле двое сутак, чаго быць проста ня можа. На гэту маю заўвагу ніхто нічога не адказаў. Пакуль я знаходзіўся ў частцы, меў магчымасьць паразмаўляць з салдатамі. Некаторыя з іх казалі мне, што чулі ноччу ля вышкі галасы Андрэя, Карапетава, Пронькі і начальніка каравула. Услед за гэтым пачулі стрэл. Хлопцы казалі, што пра гэта ўжо давалі паказаньні. Аднак пазьней у крымінальнай справе іх не аказалася.

---

# Супрацьстаяньне

***Тры здарэньні, што адбыліся за апошнія пяць месяцаў у Баранавічах, вымусілі мяне ўзяцца за напісаньне гэтага артыкулу. Справа нават не ў гучаньні, якое набылі гэтыя выпадкі ў горадзе, і ня ў тым, наколькі тое, што адбылося, сьведчыць пра парушэньне правоў чалавека ды супярэчыць элементарнаму здароваму сэнсу. Справа ў тым, што падзеі гэтыя адбыліся ў адным горадзе за кароткі час і гавораць пра адкрытае супрацьстаяньне нават у правінцыі філіяў буйнейшых партыяў ды рухаў краіны, проста сьвядомых грамадзянаў і прадстаўнікоў уладаў — людзей лаяльных да рэжыму.***

### Гісторыя першая

Восьмага верасьня ў Баранавічах, як і ў многіх іншых гарадах Беларусі, мусіла прайсьці акцыя, прысьвечаная перамозе войска Канстанціна Астрожскага над маскоўскаю дружынаю пад Оршаю ў 1514 годзе. Адпаведная заяўка на пікет была накіраваная ў гарвыканкам. Адмовіць у правядзеньні акцыі падставаў ва ўладаў не было. Аднак Баранавіцкі гарвыканкам даслаў заяўляльнікам паперу, паводле якой правядзеньне пікету забаранялася — без пазначэньня прычынаў адмовы і без указаньня магчымага альтэрнатыўнага месца правядзеньня пікету. Гарадзкая арганізацыя БНФ на чале з тагачасным старшынёю Мікалаем Северцавым вырашылі пікет праводзіць. Зразумела, мясцовая міліцыя не засталася абыякаваю да дзеяньняў апазіцыі і даслала да пікету сваіх "пасланцоў", якія прапанавалі пікетоўцам "ўвязаць" усе непаразуменьні ў пастарунку. Северцаў паверыў, што гэта будзе толькі размова, і добраахвотна паехаў у аддзяленьне міліцыі, дзе на яго быў складзены пратакол аб арганізацыі несанкцыянаванага пікету. Для Беларусі гэта звыклая сітуацыя. Банальная. Аднак, у парушэньне "традыцыі", калі апазіцыянеры безагаворна прымалі рашэньні ўладаў, за Северцава ўступіліся адвакатка Зоя Гаўдзей і мясцовыя праваабаронцы. У выніку М. Северцава ўдалося адстаяць.



Алесь Пікула пасьля "знаёмства" з міліцыянтамі.

Як? Тэхналогія простая. У суд была пададзеная скарга на рашэньне гарвыканкаму аб забароне пікету. Зразумела, суд пакінуў рашэньне ўладаў у сіле, зноў адмовіўшы заяўляльнікам, але ж на гэта пайшло больш за 2 месяцы, а пасьля гэтага часу М.Северцава ўжо нельга было прыцягнуць да адміністратыўнай адказнасьці, бо тэрмін даўнасьці яе прайшоў. Міліцыянты і гарадзкія ўлады пра-


Андрэй Маскаленка прымае прысягу.

12 траўня труну з целам Андрэя прывезьлі дамоў, у Гомель. Калі адчынілі труну, жахнуліся. Акрамя раны на правым віску, убачылі ўздуцьце ў левай вушной ракавіне, крывападцёк на шыі, абадраную скуру на пальцах левай рукі, адбітак на руцэ ад кайданкоў. Левая рука была ў мазуце, пад пазногцямі правай рукі — чорная зямля. Агледзеўшы рану, не заўважылі вакол яе ні апёку, ні сьлядоў пораху. І гэта пры тым, што сьледчыя сьцьвярджалі, нібыта ніякіх пашкоджаньняў цела сына ня мае. Пасьля ўбачанага, на наступны дзень, я зьвярнуўся да ваеннага пракурора Гомелю з просьбай патэлефанаваць у Баранавічы намесьніку ваеннага пракурора Міхасенку і запатрабаваць у яго тлумачэньняў наконт неадпаведнасьці іх агляду трупа нашаму агляду, а таксама дазволу на паўторную судмедэксьпертызу. У гэтым нам было адмоўлена.

Але я ўсё роўна запрасіў двух эксьпертаў-крыміналістаў дзеля агляду трупа сына. Пратакол яны не складалі, але прыйшлі да высновы, што стрэл з аўтамата Калашнікава ў галаву сына быў зроблены з адлегласьці ня менш за 5 метраў!

У сьнежні мне, нарэшце, пасьля шматлікіх скаргаў, дазволілі азнаёміцца з матэрыяламі крымінальнай справы, што знаходзілася ў начальніка аднаго з аддзелаў Генеральнай пракуратуры РБ А.Доўбыша. Заўважыў, што ў матэрыялах справы, якую вёў і спыніў следчы Баранавіцкай міжгарнізоннай пракуратуры ст. лейтэнант С. Яўтуховіч, некаторыя лісты з тэкстам былі абарваныя. Пры гэтым у пастанове аб спыненьні крымінальнай справы было сказана, што наш сын скончыў жыцьцё самагубствам стрэлам у рот, а куля трапіла ў левую вушную ракавіну(!?) Не былі зьнятыя адбіткі пальцаў са спускавога курка і іншых частак аўтамату. Не было ні фотаздымку ахвяры, ні схемы месца здарэньня. Не была зробленая трасалагічная эксьпертыза, ня ўказана траекторыя палёту кулі. Дарэчы, куды дзелася куля, ніхто мне так і не адказаў. Да матэрыялаў сьледзтва яе не далучылі. Затое далучылі вершы Віктара Цоя, што знаходзіліся ў кішэні вопраткі Андрэя і кваліфікавалі іх як перадсьмяротную запіску (!?). Вельмі супярэчлівыя паказаньні даў начальнік каравулу прапаршчык Віктаровіч. Няхай гэта будзе на ягоным сумленьні.

Пасьля шматлікіх зваротаў ва ўсе магчымыя інстанцыі, больш чым праз год ваенная пракуратура нарэшце дазволіла зрабіць эксгумацыю трупу. Пад ціскам сьледчага Баранавіцкай міжгарнізоннай пракуратуры капітана юстыцыі В.Чумака, які прысутнічаў на могілках і не рэагаваў на мае патрабаваньні правесьці эксгумацыю ў морзе, было прынятае рашэньне эксгуміраваць парэшткі проста на могілках. Нельга было не заўважыць, што эксьперт не ўзяў з парэшткаў ніводнага аналізу, а мае патрабаваньні зрабіць гэта засталіся без увагі. Эксгумацыя адбылася 7 ліпеня, а ўжо 11-га мне даслаў адказ памочнік ваеннага пракурора А.Анісімаў, што мой сын скончыў жыцьцё самагубствам і вінаватых у ягонай сьмерці няма.

4 жніўня 97-га году я прыехаў у Баранавіцкую міжгарнізонную пракуратуру, каб азнаёміцца з высновамі эксперта і ўсёй крымінальнай справай. Намесьнік ваеннага пракурора падпалкоўнік Міхасёнак ня даў мне гэта зрабіць, патлумачыўшы свае дзеяньні званком з Генеральнай пракуратуры РБ і тым, што ў Генеральнай пракуратуры не зацікаўленыя ў раскрыцьці злачынства па факце гібелі нашага сына ў войску. Таму адразу і была прыдуманая версія самазабойства..."

У бацькоў Андрэя яшчэ шмат прэтэнзіяў да сьледзтва і аргументаў на карысьць версіі аб забойстве сына, але мы ня будзем іх прыводзіць, бо ў межах газетнага артыкула ўсё роўна немагчыма разабрацца ў гэтай складанай справе, вынесьці вердыкт і сказаць, хто правы і хто вінаваты. Гэта справа сьледзтва, суда, пракуратуры. Нашая задача ў іншым. Мы хацелі б, каб людзі даведаліся пра гора сям'і Маскаленкаў. Мажліва, гэта дапаможа бацькам ня толькі яго перажыць, але і адстаяць сваё грамадзянскае права на аб'ектыўнае расьсьледаваньне справы пра сьмерць іх сына. Тым болей, што гэты выпадак не адзінкавы.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ.**

---

йграваць не прывыклі, а таму пасьля гэтага "апазіцыянеры" патрапілі пад асабліва пільную ўвагу з іх боку.

### Гісторыя другая

Северцава на пасадзе старшыні зьмяніў больш малады Алесь Пікула (кіраўнік яшчэ і мясцовага "Маладога Фронту"). І вось ішлі неяк Алесь з сябрам па адной з цэнтральных вуліцаў Баранавічаў ды папівалі сабе піва. І ўздумалася сябру пад добры настрой гукнуць у голас: "Жыве Беларусь!", ну, зразумела, "Жыве!" у адказ таксама прагучала. Міліцыянты, у якіх на мясцовых "нацыяналістаў" была застарэлая алергія, "якраз" апынуліся побач і адразу ж пачалі "захоп" хлопцаў, як самых сапраўдных злачынцаў. Дзейнічалі так груба, што ажно перастараліся: вывіхнулі руку Алеся Пікулы (амаль што закрыты пералом). Сяброў гвалтам даставілі ў пастарунак і пачалі падсоўваць на подпіс пратаколы, нібыта хлопцы хуліганілі на вуліцы. Абяцалі, што калі падпішуць, адпусьцяць іх да суда дамоў (справа была ў пятніцу, а суд прызначаўся на панядзелак). Сябра Алеся падпісаў пратакол (на судзе ён атрымаў свае 7,5 мінімальных заробкаў штрафу), а сам Алесь гэтую хлусьню падпісваць адмовіўся, і таму застаўся ў ізалятары часовага ўтрыманьня на выходныя. Усю суботу рука ў яго балела і бліжэй да вечару пачала чарнець. На ягоныя скаргі міліцыянты не рэагавалі і толькі ў панядзелак зранку пагадзіліся на просьбы сукамернікаў Алеся і адвезьлі яго ў медпункт, дзе наклалі гіпс.

У панядзелак суд прызнаў А.Пікулу вінаватым і прызначыў пакараньне — 1,5 мільёнаў рублёў штрафу і 3 ужо адседжаныя суткі арышту. І ўсё? Не. Алесь разам з адвакатам — той жа Зояй Гаўдзей, якая абараняла Северцава — пішуць скаргу у гарадзкую судовую калегію. Прысуд там адмяняюць, а справу перадаюць на пераразгляд у той жа суд... Такім чынам, гэта быў другі вельмі адчувальны ўдар мясцовых праваабаронцаў па судовай сістэме, нанесены з дапамогай Зоі Гаўдзей.

### Гісторыя трэцяя

Найбольш востра, пэўна, гэтыя ўдары адчула судзьдзя Гарадзкога суда Т. Ружык, што спрычынілася да вышэй згаданых працэсаў. А таму на адным з працэсаў, што праходзіў пад старшынствам менавіта Т. Ружык і з удзелам той самай адвакаткі Зоі Гаўдзей, судзьдзя дапускала парушэньні, не адрэагавала на заўвагі абароны, і ўвогуле паводзіла сябе з выклікам. На гэта Зоя Гаўдзей сказала, што запісвае ход суда на дыктафон, каб пасьля прадставіць запіс вышэйшай інстанцыі. Сказала, таксама, што яна мае на гэта права згодна з крымінальнапрацэсуальным кодэксам і назвала артыкул. У адказ – крык судзьдзі з пераходам у істэрыку і ўсялякімі абразамі. Гэта прывяло адвакатку ў стан шоку.

У перапынку Зоя Гаўдзей паскардзілася судзьдзі, што ў яе раптоўна забалела сэрца і папрасіла перанесьці працэс. Судзьдзя адказала: "Вы спачатку спраўку з лякарні прынясіце, што вы хворая, а тады ўжо будзем размаўляць!" У выніку праз колькі хвілінаў адвакатцы стала кепска і яе проста з залы суда забрала "хуткая дапамога". У шпіталі паставілі дыягназ: "мікраінсульт..."

Беларускія ўлады ўвогуле не прывыклі да таго, што нехта з грамадзянаў можа даць ім адпор. А тым болей у правінцыі. А таму, адчуваючы сваю беспакаранасьць, у барацьбе супраць самых актыўных і рашучых апазіцыйна настроеных грамадзянаў не цураюцца самых гнюсных сродкаў. Але даводзіць чалавека да паўсьмерці толькі з-за асабістай непрыязі да яго ці ж не абсурд?

Затое ўсе ў горадзе цяпер гавораць пра супрацоўленьне, якое змаглі аказаць праваабаронцы мясцовым судовай і рэпрэсіўнай машынам. А мы скажам: калі нават у правінцыі ў Беларусі ёсьць яшчэ людзі, якія ўступаюць у адкрытае супрацьстаяньне з уладамі, значыць, ня ўсё ў нас страчана, значыць, ёсьць надзея на будучыню.

**Алексей ШЫДЛОЎСКІ.**

# Падзеі Факты Каментары

(Пачатак на стар. 1)

*19 студзеня*, у першы дзень суда над былым прэм'ер-міністрам Міхаілам Чыгіром, каля будынку суда быў арыштаваны старшыня барысаўскай суполкі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная Грамада" Алесь Абрамовіч. Яго затрымалі толькі за тое, што ён трымаў у руках плакат з надпісам "Рукі прэч ад Чыгіра!" У райаддзеле міліцыі яго пратрымалі каля пяці гадзінаў і адпусьцілі ў сувязі з тым, што не знайшлося "вольнага" судзьдзі. Назаўтра А.Абрамовіча зноў арыштавалі на падыходзе да Мінскага гарадзкога суда і без сьведкаў асудзілі на сем сутак арышту. Прычым падсуднаму не дазволілі нават паведаміць пра гэта сваякам. Родныя і блізкія праз дзень пачалі пошукі А.Абрамовіча, які для іх "прапаў бяз вестак". Аднак дзяжурныя міліцыянты, у тым ліку і сьпецпрыёмніку-разьмеркавальніку на вул. Акрэсьціна, дзе ўтрымліваўся А.Абрамовіч, адмовіліся даваць нейкую інфармацыю. Зьняволены апазіцыянер "знайшоўся" толькі на трэці дзень, калі родныя ня ведалі ўжо, што і думаць...

*20 студзеня* экс-старшыня Нацбанку Беларусі Тамара Віньнікава, якая "прапала" 8 красавіка 1999 году і "знайшлася" 13 сьнежня гэтага ж году, у тэлефоннай размове з выканаўчым дырэктарам Беларускага хельсінкскага камітэту Алегам Гулакам паведаміла, што рыхтуе для СМІ вялікае інтэрв'ю, у якім падрабязна распавядзе пра тое, як ёй удалося ўцячы ад аховы і пра абставіны зьнікненьня В.Ганчара і Ю.Захаранкі.

*21 студзеня* ў судзе Заводзкага раёну г. Мінску адбыўся суд над Мікалаем Раманавым (кіроўца з МАЗу, працуе ў транспартным цэху, сябра Свабоднага прафсаюзу). Згодна з пратаколамі, складзенымі на М.Раманава, ён абвінавачваецца ў тым, што 16 сьнежня 1999 г. пасьля заканчэньня рабочай зьмены стаяў на ганку завадзкой прахадной і заклікаў рабочых прыняць удзел у несанкцыянаваным мітынгу. Тады ж М.Раманаў быў затрыманы і дастаўлены ў РАУС Заводзкага раёну. На судзе М.Раманаў віну сваю не прызнаў і заявіў, што зьяўляецца распаўсюджвальнікам газеты "Рабочы" – афіцыйна зарэгістраванага органу друку, і на момант затрыманьня займаўся менавіта распаўсюджваньнем газеты. Напрацягу працэсу было заслухана 5 сьведкаў-супрацоўнікаў міліцыі і 3 сьведкі — супрацоўнікі службы бясьпекі МАЗу, усе яны сьцьвярджалі, што М.Раманаў заклікаў рабочых да несанкцыянаванага мітынгу і такім чынам сабраў каля прахадной 200 рабочых. Адвакат заявіла хадайніцтва аб допыце двух чалавек, якія непасрэдна затрымлівалі М.Раманава (адзін з гэтых міліцыянтаў пры затрыманьні16 сьнежня мінулага году каля цэнтральнай прахадной МАЗу зламаў руку старшыні Свабоднага прафсаюзу металістаў М.Марынічу). У сувязі з хадайніцтвам, судзьдзя перанесла разгляд справы.

*24 студзеня* ў Баранавічах была праведзеная акцыя "Сьвечка незалежнасьці", накіраваная супраць саюзу Беларусі і Расіі. Удзельнікаў акцыі абурыла інфармацыя (атрыманая праз СМІ) пра тое, што 25 студзеня А. Лукашэнка і в.а. прэзідэнта Расіі У.Пуцін пачнуць кансультацыі па стварэньні саюзных органаў улады. Пасьля заканчэньня акцыі былі затрыманы М.Северцаў, які прысутнічаў на акцыі як назіральнік ПЦ "Вясна" і фотакарэспандэнт мясцовай незалежнай газеты "Intex-press" В.Клапоцкі.

*24 студзеня* намесьнік прэс-сакратара Дзярждэпартаменту ЗША Джэймс Фоўлі падпісаў заяву, у якой выказаў занепакоенасьць тым, што "нядаўнія падзеі ў Беларусі працягваюць шэраг растучых рэпрэсіяў і ўсё далей адсоўваюць перспектывы вырашэньня палітычнага і канстытуцыйнага крызісу, які перажывае краіна". Дж. Фоулі мае на ўвазе суд над М.Чыгіром, які пачаўся 19 студзеня, прысуд В.Лявонаву, вынесены 14 студзеня, палітычны працэс над А.Клімавым, які быў зьбіты турэмнай аховаю 13 сьнежня, суд над Я.Асінскім, які адбыўся 18 студзеня, перасьлед праваабаронцы А. Воўчака... "Урад ЗША асуджае рост рэпрэсіяў і выказвае сваю рашучую падтрымку тым, хто дабіваецца прасоўваньня дэмакратычных рэформаў у Беларусі. Мы настойваем на спыненьні рэжымам Лукашэнкі ганеньняў у адрас палітычных апанентаў. Падобны крок зьяўляецца неад'емнаю ўмовай дзеля таго, каб дыялог пад эгідаю АБСЕ меў нейкія шанцы на посьпех", — сьцьвярджаецца ў заяве.

*24 студзеня* ніжняя палата Нацыянальнага сходу Беларусі (створанага Лукашэнкам "парламенту") прыняла ў другім чытаньні Выбарчы кодэкс, паводле якога сёлета ў краіне павінны прайсьці выбары ў парламент. Прапанаваныя АБСЕ і беларускай апазіцыяй зьмены ў кодэкс у сваёй большасьці не былі ўлічаныя, а таму выбары, якія пройдуць паводле гэтага заканадаўства ня могуць лічыцца дэмакратычнымі. Лідэры буйнейшых апазіцыйных партыяў заявілі, што яны гатовыя ўдзельнічаць толькі ў справядлівых і дэмакратычных парламенцкіх выбарах 2000 году, але не ў падрыхтаваным уладамі фарсе.

*25 студзеня* газеце "Народная воля" даў інтэрв'ю Уладзімір Барадач — старшыня грамадзкай камісіі па расьсьледаваньні абставінаў зьнікненьня былога міністра ўнутраных справаў Юрыя Захаранкі. Хоць з часу зьнікненьня — 8 траўня 1999 году — прайшло больш за восем месяцаў, дзяржаўныя сьледчыя органы так і не змаглі даць адказ на пытаньне, што здарылася з Ю.Захаранкам і дзе ён зараз знаходзіцца. Больш за тое, яны перашкаджалі працы грамадзкай камісіі, а крымінальную справу паводле зьнікненьня Ю.Захаранкі ўзбудзілі толькі ў верасьні, пасьля зьнікненьня В.Ганчара і А.Красоўскага. Уладзімір Барадач мяркуе, што Юры Захаранка жывы: "Сёньня лёгка "схаваць" людзей дзе заўгодна, нават у "неафіцыйнай" турме, — лічыць ён. — Ня выключана, што яго маглі проста арыштаваць, і ён знаходзіцца ў дзяржаўным сьледчым ізалятары..."

*25 студзеня* ў судзе Цэнтральнага раёну г. Мінску павінен быў пачацца разгляд справы па зыску прэзідэнта Беларускай федэрацыі футболу Рыгора Фёдарава да газеты "Прессбол. Такова спортивная жизнь". Р. Фёдараў лічыць, што "Прессбол" у сваіх крытычных публікацыях абразіў і абылгаў яго як кіраўніка БФФ. Сваё гонар і годнасьць ён ацаніў у 65 мільярдаў рублёў (прыблізна 80 тысячаў даляраў), з іх 50 млрд. рублёў выстаўлена ўласна газеце, 10 млрд. рублёў — галоўнаму рэдактару У.Беражкову і 5 млрд. рублёў — намесьніку галоўнага рэдактара С.Новікаву. Сума зыску па беларускіх мерках беспрэцэдэнтная і ў нашых умовах азначае толькі жаданьне расправіцца з газетай аж да яе закрыцьця. Ні ў адной цывілізаванай краіне суд не прымае да разгляду зыскі, якія могуць абанкруціць выданьне. У выпадку з "Прессболом" улады пайшлі шляхам, апрабаваным на іншым незалежным выданьні — газеце "Навіны"... Зыск "Прессболу" быў пададзены 3 студзеня, але ў газету ён патрапіў толькі 21, за чатыры дні да суда. А таму судзьдзя Тамара Злобіч перанесла разгляд справы на 16 лютага.

*26 студзеня* споўнілася дзесяць гадоў з дня прыняцьця ў 1990 годзе Закону "Аб мовах у БССР", паводле якога беларуская мова была прызнаная дзяржаўнай у Беларусі (гэта былі яшчэ савецкія часы) і намечаны план распаўсюджваньня беларускай мовы, якая амаль напрацягу двухсот гадоў вынішчалася і забаранялася. Аднак у 1995 годзе А.Лукашэнка правёў ганебны рэферэндум, пасьля якога колькасьць беларускіх школаў і дзіцячых садкоў у краіне пачала няўхільна зьмяншацца. Калі ў 1994-95 навучальных гадах 60 адсоткаў першакласьнікаў вучыліся па-беларуску, дык у 1998-99 — усяго 4,8... У Мінску са 110 беларускамоўных школаў засталося 17, у Гродне з 27 — усяго адна. Дыскрымінацыя беларускай мовы працягваецца. І гэта нягледзячы на тое, што паводле перапісу 1999 году, беларусамі сябе назвалі 82 адсоткі насельніцтва краіны (больш за восем мільёнаў чалавек) і чатыры з паловай мільёны засьведчылі, што ў паўсядзённым жыцьці карыстаюцца беларускаю мовай.

*У студзені* "Малады Фронт" распачаў падрыхтоўку да дня Сьвятога Валянціна — сусьветнага сьвята ўсіх закаханых. 14 лютага ў Мінску і іншых гарадах Беларусі пройдзе акцыя любові. Мяркуецца, што 13 лютага ўвечары дэлегацыя беларускай моладзі перадасьць сваю петыцыю ў разьмешчаныя ў сталіцы пасольствы буйнейшых краінаў сьвету, а цэнтральнае шэсьце ў Мінску 14 лютага будзе падтрымане па ўсёй Беларусі.

**Інфармацыйны аддзел «Вясны»**

# Простая філасофія

## Рэаліі нашага жыцьця

Сядзеў я неяк у вагоне дызель-цягніка побач са сталымі, калі не сказаць старымі, мужчынамі. Я ехаў да станцыі Грабаўка ў лес, па грыбы, а яны — на Украіну па муку, бо там яна таньнейшая. Усю дарогу мужчыны гутарылі, і размова іх падалася мне цікавай, нават трохі філасофскай. А што ты зробіш. Відаць, жыцьцё прымушае нашых сялянаў ды гараджанаў на старасьці гадоў рабіцца філасафамі. Хоць мне падаецца, што калі б гэтую размову паслухаў звычайны еўрапеец, немец, скажам, альбо француз, ён, калі б зразумеў пра што ідзе гаворка, жахнуўся б... А гаварылі мужчыны вось пра што.

Увесь час, а гэта лічы цэлае стагоддзе, нашыя ўлады не жадалі, каб простыя людзі паляпшалі сваё жыцьцё матэрыяльна. Даказаць гэта няцяжка, калі раскласці жыцьцё нашых бацькоў і сваё ўласнае жыцьцё на часткі-перыяды.

*Частка першая. Сталінская.* Тут табе калектывізацыя, атэізм, ГУЛАГ, жабрацтва, голад, войны і пасьляваенны час. Жыцьцё было такое, што цяжэйшым, здаецца, не бывае. Вакол беднасьць, бруд, галеча, хваробы і цяжкая праца... Потым аднаўлялі разбураную за вайну гаспадарку. Людзі працавалі і цярпелі — спадзяваліся на сьветлую будучыню. Маўляў, калі мы не пажывем, дык хоць нашыя дзеці будуць жыць пры камунізме...

*Частка другая. Хрушчоўская.* Адліга 1955-64 гадоў. Людзі пачалі патроху перасяляцца з зямлянак у баракі, з баракаў у кватэры-хрушчоўкі. Гэта ўжо лепш, чым у хляве. Ды і бульбу гнілую па вясне вяскоўцы перасталі збіраць на калгасным полі. Сталі пакрыху разжывацца. Але неўзабаве выйшаў закон, па якім сялянам не дазвалялася мець хатняй жывёлы больш, чым гэтага хацелі маскоўскія чыноўнікі. Яны баяліся, каб сяляне, а за імі і рабочыя, не «разбагацелі». А на калгаснай паншчыне, вядома, не разбагацееш.. А таму, калі нарэшце было адмененае савецкае прыгоннае права і сялянам пачалі выдаваць пашпарты, яны і сталі масава ад'язджаць у горад ды шукаць там працы на заводах. Людзі зноў працавалі і цярпелі, спадзяваліся на сьветлую будучыню...

*Частка трэцяя. Брэжнеўская* — 1965-1982 гады. Працаздольнае насельніцтва, адчуваючы, што іх уласнае жыцьцё ўжо не ўратуеш і не паправіш, накіравала свае намаганьні на дабрабыт дзяцей і ўнукаў. Калі якую капейчыну зараблялі, дык адразу клалі на ашчадную кніжку з такой думкай: "Няхай я жыў цяжка, дык хоць дзецям дапамагу купіць хату, кватэру ці машыну, а не дык дапамагу ім вывучыцца". А яшчэ зьбіралі сабе на пахаваньне, каб дзеці на гэта грошай ня трацілі. Ды ці мала пра што думаў селянін ды рабочы, зьбіраючы па рублю сабе на старасьць. Карацей, і ў гэты час людзі жылі сьціпла — і зноў жа больш думалі пра будучыню, пра дзяцей.

*Частка чацьвёртая. Гарбачоўская* — 1984-90 гады. Тут, як кажуць, адным указам усе сталі аднолькава бедныя. Улады ўсе ўклады і назапашваньні ў ашчадных банках анулявалі. Абагаціліся адны чыноўнікі, бо ведалі пра грашовыя абмены ды дэнамінацыі папярэдне і пасьпелі абмяняць грошы на катэджы, машыны, кватэры, халадзільнікі ды даляры. Пра масавыя ашуканствы ды афёры таго часу ня ведаюць, напэўна, толькі малыя дзеці. Людзям простым зноў давялося пачынаць жыцьцё з нуля і спадзявацца на будучыню. Сьветлую...

*Частка пятая. Цяперашняя.* Спытайцеся ў людзей, а ці ёсьць у іх грошы? Адказ адзін — няма. Нічога няма. Заробкаў ды пенсіяў не хапае нават на харчы. Інфляцыя такая, што "на кніжку" грошы не пакладзеш, а даляраў ня купіш. А купіш, дык штрафануць і яшчэ апошнюю маёмасьць канфіскуюць.

Дык вось і атрымліваецца, што ўлада нашая заўсёды рабіла так, каб мы ня сталі людзьмі заможнымі, каб нашая галава ўвесь час думала толькі пра адно — як не памерці з голаду, як здабыць грошы на кавалак каўбасы ці сялёдчыны, як сабраць грошы на новы абутак?

І вось што я на гэты конт думаю. Асноўны матэрыяльны капітал людзей павінен перадавацца з пакаленьня ў пакаленьне. Ён — аснова існаваньня і росквіту твайго роду. Гэта можа быць маёмасьць якая ці не малы рахунак у банку. Ён павінен перадавацца бацькамі дзецям. Увесь сьвет карыстаецца гэтым непісаным законам. Але толькі не мы.

Калі я ўступаў у жыцьцё, мой бацька даў мне толькі грошы на білет да гораду, бо ён нічога ня меў. Што маю сёньня я? Я маю двухпакаёвую хрушчоўку. Яе кошт, мабыць, 5 тысяч даляраў. Гэта заробак сярэдняга немца менш чым за два месяцы працы. Але можа яшчэ пры маім жыцьці кватэра разваліцца, і наш дом зьнясуць бульдозерамі, бо і цяпер дах і сьцены працякаюць на стыках у дождж, трубы і камунікацыі даўно праіржавелі. Вось і атрымліваецца, што фактычна і мне, як і майму бацьку, няма чаго пакінуць сваім дзецям. Але ж я адпрацаваў усё жыцьцё. І ня толькі я, але і мая жонка. І нічога не зарабілі. Рахункаў у банках няма, а грошай цяпер нават на лекі не хапае.

Вось і адкажыце, людзі добрыя, як мне быць? Як усім нам быць і як жыць далей? Што перададзім нашым дзецям у спадчыну? Відаць, толькі цярплівасьць, пакорлівасьць і страх перад начальнікамі.

**Міхась АКУЛЕНКА**,
*рабочы, 58 год.*

# Прызначаны ў злачынцы

*(Пачатак на стар. 3)*

Справу Васіля Лявонава слушна лічаць палітычнай і "заказной". Былы міністр сельскай гаспадаркі, што праўда, ніколі ня быў у шэрагах апазіцыі, але ягоныя погляды на шляхі разьвіцьця аграрна-гаспадарчага сектару разыходзіліся з эканамічнай палітыкай лукашэнкавага рэжыму. Колішні партыйны кіраўнік Магілёўшчыны, В.Лявонаў, па словах людзей, якія даўно яго ведалі, вызначаўся пэўнай лібэральнасьцю: таго ж А.Лукашэнку ў камуністычныя часы ён абараняў ад магчымых непрыемнасьцяў з боку партнаменклатуры, а аднойчы засланіў і ад турмы. Пагаджаючыся на пасаду міністра напачатку лукашэнкавага прэзідэнцтва, В.Лявонаў ужо меў вопыт у рэформах аграрнага сектару на прыкладзе Нямеччыны і лічыў, што здолее перанесьці гэты вопыт на беларускую глебу. На тле бурных падзеяў мінулых гадоў мала хто зьвярнуў увагу на тое, што міністр Лявонаў ня браў удзелу ў падрыхтоўцы рэферэндуму 1996 году (у такіх выпадках звычайна адгаворваюцца: "я вузкі сьпецыяліст, я мушу без палітыкі рабіць сваю справу"...). Калі ж увосень 97-га арыштавалі двойчы Героя Сацпрацы В.Старавойтава і з ім іншых "расьсьветаўцаў", міністр сельскай гаспадаркі В. Лявонаў адкрыта выказаўся ў абарону кіраўніка знакамітага калгасу. Усё гэта яму і "прыпомніў" рэжым. Прыпомню, каб запалохаць іншых, каб кіраўнікі ўсіх рангаў не праяўлялі ініцыятывы і самастойнасьці, бо крок направа-налева ад дзяржаўнага накірунку – для іх ёсьць шлях за краты.

Пакуль у судах раздаюць гаспадарнікам турэмныя тэрміны, на беларускім "чорным рынку" за даляр даюць ледзь не мільён "зайцаў" (пасьля дэнамінацыі — тысячу). Далёкі ад палітыкі беларускі абывацель пачынае задумвацца: раней, калі абвешчаныя "злодзеямі" былыя міністры, прэм'еры, бізьнесоўцы,




дэпутаты яшчэ не былі прызначаныя злачынцамі – краіна жыла чамусьці лепей. Прынамсі можна было зводзіць канцы з канцамі. Сёньня страшна глядзець ужо ня ўніз, а ўверх — бо так яскрава бачна, у якой ямінепрорве мы знаходзімся

**Тацяна СЬНІТКО.**

**Валеры ШЧУКІН**

# Турэмныя універсітэты

Грамадзянін абавязаны выконваць толькі законныя патрабаваньні ўлады. Незаконныя распараджэньні міліцыі і прэзідэнцкіх сьпецслужбаў я не выконваў і выконваць не зьбіраюся. А таму і гэтым разам міліцыянтам з Цэнтральнага РАУС давялося гвалтам выцягваць мяне з акрэсьцінскага сьпецпрыёмніку. Яны зацягнулі мяне ў будынак суда Цэнтральнага раёну і кінулі на падлогу ў кабінеце судзьдзі А.Барысёнка. Я падняўся на ногі і спытаў у яго:

— Таварыш Барысёнак, што ўсё гэта азначае?

— Я павінен разгледзець адміністратыўную справу, якая ўзбуджаная ў адносінах да вас Цэнтральным РАУС, — адказаў судзьдзя.

— А вы накіроўвалі мне позву аб зьяўленьні ў суд?

— Не.

— Тады па якім праве мяне даставілі сюды прымусова?

У адказ цішыня — нямая сцэна...

Судзьдзі Барысёнку нічога не заставалася, як перанесьці судовы працэс на іншы дзень. Бо ў артыкуле 247 КаАП, які абавязаныя прачытаць правапарушальніку ў РАУС перад пачаткам разгляду справы, запісана, што прымусовы прывод грамадзяніна ажыцьцяўляецца толькі ў выпадку ўхіленьня яго ад дабраахвотнага зьяўленьня па выкліку. Мяне ж даставілі ў суд проста з нараў. Судзьдзя Барысёнак у гэтым выпадку ўсё зрабіў па законе. Але, на жаль, у яго не хапіла мужнасьці вынесьці ў адпаведнасьці з артыкулам 153 КПК прыватную пастанову на адрас начальніка Цэнтральнага РАУС пра парушэньне закону.

Міліцыянты, якія на гэты раз засталіся "з носам", выставілі мяне за дзьверы суда. І давялося мне па марозе, у адной кашулі пад плашчом, праз увесь горад дабірацца да сьпецпрыёмніка-разьмеркавальніка на Акрэсьціна па адзеньне, якое там засталося. Даставіць назад незаконна забранага арыштанта ў Цэнтральным РАУС палічылі непатрэбным. Якія могуць быць у Беларусі цырымоніі з бяспраўнымі грамадзянамі...

### Супрацьпраўнае затрыманьне і супрацьпраўны арышт.

Судзьдзя Барысёнак прызначыў слуханьне справы на дзень наступны пасьля каталіцкіх Калядаў. Аднак працэс у названы тэрмін не пачаўся, бо на Каляды мяне затрымалі і даставілі ў Савецкі РАУС. Схапілі мяне на пешаходным пераходзе каля плошчы Якуба Коласа. Разам са мною былі арыштаваныя



яшчэ некалькі грамадзянаў, якія хацелі неракрыць рух на прасьпекце Скарыны, каб засьведчыць свой пратэст супраць падпісаньня дакументаў аб інтэграцыі Беларусі і Расіі.

У адпаведнасьці з артыкулам 120 КаАП за парушэньне правілаў дарожнага руху (ПДД) накладаецца штраф у памеры 0,1-0,5 мінімальнага заробку. Пратакол за парушэньне ПДД пешаходамі не складаецца, а штраф накладаецца і бярэцца на месцы парушэньня (арт.237 КаАП). І толькі ў выпадку адмовы заплаціць штраф на месцы ўзбуджаецца вытворчасьць па адміністратыўнай справе (арт. 288 КаАП). У Савецкім РАУС мяне зрабілі ўдзельнікам несанкцыянаванага пікету(!). У выніку за юрыдычнай непісьменнасьцю службовых асобаў пайшло прававое бязьмежжа ў адносінах да мяне і іншых затрыманых грамадзянаў.

Дзеля справядлівасьці варта сказаць, што кіраваў гэтай "аперацыяй" не Савецкі РАУС, а начальнік адзьдзела масавых мерапрыемстваў ГУУС Мінгарвыканкаму капітан (цяпер ужо маёр — *рэд.*) Кандрацін. Гэты адзін з кіраўнікоў гарадзкой міліцыі пайшоў з райаддзелу толькі тады, калі быў падпісаны пратакол на арышт апошняму з затрыманых. Аднак паколькі пад дакументамі падпісаліся службовыя асобы Савецкага РАУС, адказнасьць за парушэньне Канстытуцыі і законаў нясе кіраўніцтва райаддзела, а не спадар Кандрацін, вуснае распараджэньне якога да крымінальнай справы не падшыеш.

А парушэньняў пры затрыманьні ў Савецкім РАУСе зрабілі столькі, што прасьцей пералічыць тое, што яны не парушылі. Назаву толькі некаторыя з іх супрацьпраўных крымінальна караемых учынкаў:

— зрабілі незаконнае затрыманьне: арт.241 КаАП не дае міліцыі права затрымліваць нават удзельнікаў несанкцыянаванага пікету;

— склалі незаконны пратакол аб адміністратыўным правапарушэньні за ўдзел у несанкцыянаваным пікеце: ні прэзідэнцкі дэкрэт, ні нейкі іншы нарматыўны акт Рэспублікі Беларусь не прадугледжвае прыцягненьня да адміністратыўнай адказнасьці грамадзяніна за ўдзел (саўдзел) у несанкцыянаваных палітычных акцыях;

— перавысілі працэсуальныя тэрміны адміністратыўнага затрыманьня — пратрымалі ў РАУС шэсьць гадзінаў замест максімальна дапушчальнага тэрміну тры гадзіны;

— незаконна арыштавалі на трое сутак — арт.242 КаАП не дае права кіраўніцтву РАУС утрымліваць да суда ва ўмовах ізаляцыі за парушэньне парадку арганізацыі і правядзеньня пікету.

Супрацьпраўныя дзеяньні службовых асобаў Савецкага РАУС, за якія прадугледжаная крымінальная адказнасьць, я абскардзіў у пракуратуры, але адказ адтуль быў такім, як і шмат разоў раней: у дзеяньнях службовых асобаў Савецкага РАУС складу злачынства няма.

А адбываецца ўсё гэта таму, што ў Беларусі народ перастаў быць адзінай крыніцай дзяржаўнай улады, як запісана гэта ў арт.3 Канстытуцыі РБ. Больш за тое, народ наш наогул аказаўся бяспраўным. Адзіным, а фактычна адзінаасобным валадаром дзяржаўнай улады ў краіне стаў... прэзідэнт.

### Выкраданьнем людзей займаецца... міліцыя.

Галаўны боль і сьвіст у вушах не пакідалі мяне ўсе 15 сутак зьняволеньня. Я лічыў гэта вынікам шматдзённага напаўгалоднага знаходжаньня ў замкнёнай прасторы бяз сьвежага паветра. Аднак пасьля выхаду на волю шум і боль ня скончыліся. Я зразумеў, што гэта хутчэй за ўсё вынік удару галавой аб машыну, куды міліцыянты Партызанскага РАУС штурхалі мяне ў кайданках. Аднак у паліклініку я схадзіць не пасьпеў. На трэці дзень пасьля вызваленьня мяне зноў накіравалі на Акрэсьціна.

Як ні хацелася гэта рабіць, але давялося прасіць супрацоўнікаў сьпецпрыёмніку-разьмеркавальніку, каб аказалі медыцынскую дапамогу. Дзяжурны па сьпецпрыёмніку запатрабаваў ад міліцыянтаў з Савецкага РАУС, якія прывезьлі мяне, даведку аб маім стане здароўя. Двое міліцыянтаў мусілі везьці мяне ў бліжэйшую клінічную бальніцу на вуліцу Сямашкі. Там урачы выявілі ў мяне чэрапна-мазгавую траўму і адразу ж шпіталізавалі.

Магу толькі здагадвацца пра разнос, які наладзіў супрацоўнікам Савецкага РАУС спадар Кандрацін, па загадзе якога мяне арыштавалі, за тое, што яны ня здолелі пасадзіць мяне за краты. Мяркую пра гэта па штодзённых тэлефонных званках у бальніцу і па тым, што адразу пасьля заканчэньня абсьледваньня і ўдакладненьня дыягназу ўрачы прапанавалі мне выпісацца для далейшага амбулаторнага лячэньня ў паліклініцы. Аднак зрабіць гэта я ня змог, бо з бальніцы мяне... выкралі.

*(Працяг будзе)*

*(Працяг. Пачатак у № 1)*

**Права на волю. Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна".**
**Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах. Наклад 299 асобнікаў.**
**Адрас рэдакцыі: 220013 Менск, а/с 49. E-mail:viasna 96@open. by Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ.**
**Пры перадруку абавязковая спасылка на бюлетэнь.**

*У нумары скарыстаныя фотаздымкі з архіву Цэнтру "Вясна"*